

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№46(559) 10 сакавіка 1993 г. Серада. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 618744 экз. Кошт у розніцу — 4 руб.


## ФАКС

### Вкратце

**Наука терпит убытки в области разработок, идей и, что ничем другим не заменимо, людях.**

Более 200 кандидатов наук покинули в течение прошлого года Академию наук Беларуси. Освободившиеся места заняли только 80 человек.

❑

**Пресс-центр Черноморского флота опроверг сообщение независимой газеты "Мегаполис-экспресс" о продаже 7 боевых кораблей флота военно-морским силам Германии.**

Было также объявлено, что теперь каждый военный корабль будет иметь свой герб.

❑

**В Москве вот уже около месяца продолжается сенсационное падение цен на основные продукты питания.**

По данным управления ценовой политики Москвы, за истекший месяц максимальная цена на масло снизилась с 1684 рублей до 1260 рублей, на вареную колбасу — с 900 до 800 рублей за килограмм, на рис — с 162 до 115.

### Съезд "ополномочен" заявить

**На открывающемся сегодня в Москве внеочередном съезде народных депутатов будет рассматриваться вопрос о полномочиях президента России.**

Борис Ельцин добивается предоставления более широких полномочий, чем те, которые готов предложить ему парламент.

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

### Качай ее!

**Турция и Азербайджан подписали вчера соглашение о строительстве нефтепровода, который будет перекачивать сырую нефть из Баку в терминал на средиземноморском побережье Турции.**

Протяженность нефтепровода составит более тысячи километров, и один из его участков будет проходить по территории Ирана. Строительство нефтепровода начнется через два года.

**Алесь ХЛЕБНЫЙ.**

### Все выше и выше...

**Вчерашний курс валют банка "Комплекс" в Минске**

| Наименование валюты | Скупка | Продажа |
|---|---|---|
| Доллар США | 725 | 730 |
| Немецкая марка | 420 | 423 |
| Английский фунт | 994 | 1023 |
| Французский франк | 123 | 127 |
| Финская марка | 115 | 119 |

**За минувшую неделю, как и предполагали эксперты, доллар подорожал на 30 рублей.**

Подобная тенденция сохранится и на этой неделе. Курс доллара в минских банках вчера сильно разнился. В "Промстройбанке" он, например, составлял 760 "деревянных".

На вчерашних торгах Московской межбанковской валютной биржи доллар шел за 650 рублей, что на один рубль больше, чем в прошлый вторник.

❑

Кредиты, которыми торгует Национальный банк на Белорусской фондовой бирже, также дорожают.

Самый низкий процент за одномесячный кредит вчера равнялся 112. Самый высокий — 150.

**Антон ЧЕКОВ.**

### Маслом МиГи не испортили

**Министр промышленности Малайзии сообщил журналистам, что Россия предложила закупить крупные партии пальмового масла, если Малайзия приобретет российские истребители МиГ-29.**

Две американские компании также претендуют на заключение контракта с Малайзией о поставках военных самолетов. Вице-президент России Александр Руцкой, посетивший эту страну на прошлой неделе, предложил поставить ей различные виды оружия, в том числе ракеты с лазерным наведением.

**Радио "Свобода".**

### Спорт-экспресс

В Делрэй-Бич (США) стартовал теннисный турнир с призовым фондом 375 тысяч долларов. В первом его круге минчанка Наталья Зверева выиграла у аргентинки Инес Горрочатегуи — 6:4, 6:0.

❑

Не очень удачно выступают пока на молодежном чемпионате мира в чешском городе Горрахов белорусские лыжники. В эстафетной гонке 4х10 км, которую выиграли норвежцы, наши земляки не попали в десятку сильнейших.

### Пока одни воюют...

**По сообщению хорватских средств информации, сербская сторона продолжает атаки в Восточной Боснии и Хорватии.**

Загребское радио сообщило, что позавчера ночью сербские силы предприняли наступление в районах вокруг удерживаемых мусульманами городов.

❑

**Автоколонна ООН с грузами помощи выехала вчера утром из Сараево в находящийся в окружении сербских сил город Киневич-Поле в Восточной Боснии.**

Грузовики везут туда одеяла, матрасы и медикаменты. Водители машин прошли курсы по оказанию первой помощи.

**Николай ПАВЛОВ.**

### Эхо афганской войны

**Еще двое бывших советских солдат вызволены из афганского плена.**

У трапа самолета в аэропорту "Шереметьево" их приветствовал министр иностранных дел России Андрей Козырев, который заявил, что освобождение пленных — это чисто гуманитарный акт. Он стал возможным в результате сложного переговорного процесса, который продолжался с мая 1992 года. А.Козырев выразил надежду, что эта акция станет очередным шагом в решении столь болезненной для России проблемы освобождения бывших советских солдат из афганской неволи.

### ...А резидент — парень простой

**Министр обороны Болгарии Валентин Александров вновь заявил о возросшем интересе разведывательных служб соседних с Болгарией и других государств к ее вооруженным силам.**

В качестве примера бесцеремонности таких действий министр привел случай, когда резидент иностранной разведки позвонил по телефону из соседней страны своему агенту в южной Болгарии и открытым текстом приказал ему собрать данные, касающиеся нового командира дивизии болгарской армии.

### В.Кебич приступил к работе

Председатель Совета Министров Республики Беларусь В.Ф.Кебич 9 марта с.г. приступил к работе после болезни.

### Крестьянская партия подтягивает свои силы к столице...

**Земля, воля, особенности современного политического момента с точки зрения сельчан... — вот, если кратко, перечень проблем, которые решено рассмотреть на общереспубликанской конференции Белорусской крестьянской партии.**

Определены также место и время проведения этого крестьянского форума — суббота, 13 марта, минский Дворец искусств (улица Козлова, 3).

Как подчеркнул председатель БКП Е.Лугин, приглашаются на конференцию все желающие — о земле и воле мечтают, как известно, не только сельчане, но и многие горожане.

**Павел СТЕПАНОВИЧ.**

### "На нашей сцене" — праздник!

**На сцене Государственного академического театра оперы и балета в Минске состоялась премьера спектакля-бала. "На нашей сцене оперетта".**

И, надо сказать, прошла премьера на ура — о лишнем билетике мечтать не приходилось. На спектакле присутствовал Станислав Станиславович Шушкевич, поздравивший после постановки артистов, а также послы Италии, Китая, России.

Кстати, 1 апреля спектакль вновь будет поставлен на той же сцене.

**Алесь СИВЫЙ.**

### Клубничка на полигоне

**На сей раз речь идет не о взрывах и танках.**

Генеральный директор БелавтоМАЗа М.Ф.Лавринович предлагает военный полигон под Минском отдать индивидуальным застройщикам под дачи. Если не весь, то три четверти. Полигон занимает огромную площадь, и к тому же часть его находится уже в черте города. Такие аргументы на встрече с руководителями Мингорисполкома привел директор завода, территория которого примыкает к полигону.

Раньше подобные вопросы рассматривали за закрытыми дверями в Министерстве обороны СССР.

### Да не судимы будете...

**После трехнедельной паузы продолжила и за два с половиной часа завершила свою работу очередная сессия облсовета.**

Ее неожиданный срыв 11 февраля, как мы уже сообщали, был вызван недисциплинированностью депутатов, вернувшихся с обеда в недопустимо малом количестве. Председатель мандатной комиссии зачитал имена самых активных и самых таинственных депутатов, председательствующий последних пожурил, и инцидент был сочтен исчерпанным. До следующей сессии?

**Василий САРЫЧЕВ.**

### Разрастется ли журфак до института?

**Вполне возможно, что нынешние первокурсники факультета журналистики БГУ к пятому курсу превратятся в студентов института журналистики Республики Беларусь.**

Надеяться на это позволяет проект концепции развития информационного пространства, который разработан коллегией Министерства информации, а также представителями ряда республиканских изданий.

В будущем институте планируется открыть 4 факультета: репортерский — с 3-летним сроком обучения; аналитической журналистики — 5 лет обучения; заочный и факультет профессионального совершенствования.

**Ирина ЛЕВШИНА.**

Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты" агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, БелаПАН и РИД.



## Мінск, 8 сакавіка: за жанчын зноў святкавалі мужчыны...

**Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ**

— Жанчыны! Успомніце, што 8 Сакавіка — гэта не толькі ваша свята, гэта і дзень барацьбы за вашы правы!

На пляцы перад Домам афіцэраў збіраўся натоўп пад чырвонымі сцягамі. Над ім, над танкам, над скверам, над бліжэйшымі дамамі несліся, узмоцненыя гучнагаварыцелем, страсныя словы пра класавую барацьбу, прыгнятальнікаў і прыгнечаных. Пачынаўся марш пратэсту прыхільнікаў ПКБ і Руху за сацыяльны прагрэс і справядлівасць...

Калона прайшла каля будынка Вярхоўнага Савета, тэатра імя Янкі Купалы, па праспекце Францыска Скарыны да паштамта. Там, ля гасцініцы "Мінск", арганізавана здаваліся транспаранты. Але большасць пажылых людзей накіравалася да помніка Леніну.

— Ды я б яго гранатай узарваў! — парушыў раптам агульнае яднанне нейкі дзядуля. — Нічога б ад яго не засталося!..

Натоўп не ўстрымаўся:

— Правакатар, бандыт! — нехта штурхнуў дзеда ў спіну. Але той пачаў апраўдвацца:

— Родненькія, вы мяне не зразумелі! Я казаў пра сцяг, які лунае за Леніным! А перад нашым правадыром я гатовы на калені стаць! — стары зняў шапку і пакланіўся. А натоўп задаволена загудзеў:

— Наш чалавек, наш...

А побач ужо нейкая жанчына дамагалася ад лідэра ПКБ Віктара Чыкіна:

— Чаму вы ў тэхнікумы, інстытуты не ідзяце? Без моладзі ж вы нічога не зробіце!

Другая таксама рвалася ў цэнтр:

— Дзе ён, дзе наш самы галоўны?..

Віктар Валянцінавіч сціпла апусціў вочы:

— Ды я пакуль што не самы галоўны. Трэба яшчэ ў выбарах перамагчы...

А бабулі з дзядулямі вакол былі аднадушнымі: "Пераможам!"

... Пераможам, будзем змагацца. Вось лейтматыў усяго мерапрыемства.

Але каго яны збіраюцца перамагаць? Міфічных дэмакратаў? Дык іх ва ўладзе Беларусі можна на пальцах адной рукі пералічыць. А пра тое, што рэспублікай, як і раней, кіруюць іх аднадумцы, арганізатары шэсця чамусьці сціпла прамаўчалі.

Вось і атрымліваецца, што фактычна барацьба ідзе паміж палітыкамі з той адной, добра вядомай усім нам партыі. Але ідуць яны ў атаку, страляючы па дэмакратах, адправіўшы першымі зняважаных дзядуль і бабуль.

... Восемдзесят гадоў назад упершыню святкаваўся дзень 8 Сакавіка. І тады, і пазней ён выкарыстоўваўся, каб узняць жанчын на барацьбу. З цягам часу ўзнялі і перамаглі.

Цяпер зноў усё пачынаецца спачатку?

## Старшыня Савета Міністраў Беларусі В.Ф.Кебіч звярнуўся да Генеральнага пракурора

Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.Ф.Кебіч 9 сакавіка г.г. звярнуўся з заявай да Генеральнага пракурора Беларусі В.І.Шаладонава. Прычынай для заявы прэм'ер-міністра паслужылі апублікаваныя ў час яго хваробы ў маскоўскай газеце "Коммерсант дейли", у "Народнай газеце", а таксама перададзеныя па радыёпраграме "Маяк" і тэлебачанню "Астанкіна" паведамленні, у якіх са спасылкай на крыніцы "блізкія да МУС", сцвярджаецца, што сваякі прэм'ера замешаны ў непрыстойных справах, маюць дачыненне да атрымання хабару і г.д.

"Катэгарычна адхіляю такія выдумкі, — указвае ў заяве В.Ф.Кебіч. — Расцэньваю іх як спробу зняславіць маю сям'ю, мяне, а, значыць, кінуць цень на ўрад Беларусі. Асабіста мне ясныя як прычыны, так і крыніцы такіх правакацый. За ўсім гэтым стаяць тыя, каму хацелася б дыскрэдытаваць узяты ўрадам курс на паступовае рэфарміраванне эканомікі, сацыяльную абарону людзей, хто зацікаўлены ў тым, каб узарваць стабільную абстаноўку ў рэспубліцы. Гэта амаральныя і брудныя прыёмы палітычнай барацьбы.

Расцэньваю такія дзеянні як небяспечныя для нашай дзяржавы. Прашу ў сувязі з гэтым пракуратуру правесці праверку распаўсюджваемых паведамленняў і прыняць меры ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь".

**Белінфарм.**

### Ад рэдакцыі "Народнай газеты"

Што ж, мусіць, мы і на самай справе пачалі рухацца да прававой дзяржавы: нарэшце высокія ўрадавыя асобы пачынаюць высвятляць адносіны са сродкамі масавай інфармацыі так, як і належыць у дэмакратычным грамадстве, — пры дапамозе закона, а не "выкручвання рук", як гэта практыкавалася ў нас да зусім нядаўняга часу.

Шкада, аднак, што на ўчарашнюю прэс-канферэнцыю, дзе ўсё гэта прагучала з вуснаў самога спадара Кебіча, афіцыйна запрасіць прадстаўніка "Народнай газеты", да якой таксама выказаны прэтэнзіі, відаць, палічылі залішнім...

І яшчэ: як мы зразумелі, моцныя выразы наконт "правакацый", "амаральных і брудных прыёмаў палітычнай барацьбы" ў аднолькавай ступені адрасаваны ўсім згаданым у заяве прэм'ера сродкам масавай інфармацыі. Прабачце, але ж гаворка пра зусім розныя публікацыі і паведамленні! Мы не нясём адказнасці за тое, што напісана ці сказана з памянёнай нагоды маскоўскімі журналістамі, як і апошнія не нясуць адказнасці за тое, што напісана ў нас. Але наконт публікацыі ў "Народнай газеце" можам заявіць з усёй упэўненасцю: яе аўтар не карыстаўся ніякімі сумніцельнымі крыніцамі, а толькі пераказаў інфармацыю, афіцыйна паведамленую службовымі асобамі Кантрольнай палаты.

Ці не занадта гэта гучна — кваліфікаваць будзённую журналісцкую работу ні больш ні менш як спробу "ўзарваць стабільную абстаноўку ў рэспубліцы"? І ўвогуле — ці варта бачыць за ўсёй гэтай сітуацыяй толькі падкопы журналісцкай браціі? А што тады сказаць наконт запыту групы народных дэпутатаў, якіх таксама вельмі зацікавіла гісторыя з тымі самымі валютнымі мільёнамі? Аб'явім і народных выбраннікаў "правакатарамі"?

А можа, калі ўжо рушылі да прававой дзяржавы, лепш не спяшацца з ярлыкамі, ад якіх павявае старым таталітарным духам, і сапраўды дачакацца, што ж скажа ў гэтай справе Закон?

*Адкрытым тэкстам*

## Як чэрвеньскі рэдактар шукае "кампрамат" на С.С.Шушкевіча

**Уладзімір ДАРАГУЖ, настаўнік**

Шаноўная рэдакцыя! Мае нататкі — водгук на артыкул Сяргея Плыткевіча, надрукаванага ў "Народнай газеце" 6 лютага.

Калі ў мінулым годзе наша мясцовая газета "Раённы веснік" палівала брудам М.С.Гарбачова, перадрукоўваючы артыкулы з газет "Правда", "Гласность", "Мы и время", ніхто не здзіўляўся: калі занядужаў леў, то кожны асёл можа падысці і ўдарыць яго капытом. Такое ў нашай "саўковай" гісторыі здаралася неаднойчы. Але каб вось гэтак жывога кіраўніка дзяржавы... Такога раней не было. Не дазвалялася.

Ну, Старшыню Савета Міністраў наш рэдактар (ён жа намеснік сакратара райкама партыі камуністаў Беларусі) А.С.Бушэнка не крыўдзіць. Рэгулярна змяшчае справаздачы аб візітах і сустрэчах спадара Кебіча. Нядаўна амаль без скарачэнняў даў яго прамову ў Міры. А вось Старшыня Вярхоўнага Савета зусім недаспадобы рэдактару і яго партыйным начальнікам. І ў нумары ад 23 студзеня змяшчаецца адразу два "кампраматы" на С.С.Шушкевіча.

На першай старонцы ў рубрыцы "Усміхнёмся разам" сярод анекдотаў змешчана "Сучасная загадка": **за якія заслугі Шушкевіч атрымаў званне палкоўніка?**

Чаму ж шаноўны рэдактар у свой час не пытаўся, за якія заслугі атрымаў гэткае ж званне першы сакратар Чэрвеньскага РК КПБ, якому, дарэчы, жыхары раёна адмовілі ў даверы на выбарах і ў Вярхоўны і ў раённы Саветы? А за якія заслугі мелі генеральскія чыны цэкоўскія чынушы?

На трэцяй жа старонцы — чарговы лямант на тэму "без калгасаў мы не пражывём". І зноў вінаваты С.С.Шушкевіч, бо папракнуў "чырвоных памешчыкаў" у тым, што яны ўсяляк стараюцца захаваць сваё кіруючае становішча ў грамадстве.

Не па нутру камуністычнай наменклатуры кіраўнік, якім Беларусь сапраўды павінна ганарыцца, — выдатны вучоны, сумленны інтэлігент, прызнаны лідэр нашай дзяржавы, урэшце, беларус, які дасканала валодае роднай мовай. Пэўна, камуністычная большасць Вярхоўнага Савета не можа дараваць сабе той разгубленасці, якую яна дапусціла пасля паражэння ГКЧП, абраўшы Шушкевіча Старшынёю Вярхоўнага Савета. Але і спадару Шушкевічу невыносна цяжка праводзіць сваю палітыку і быць заложнікам гэтай большасці.

Безумоўна, тыя, што трымаюць уладу і не жадаюць яе страціць, хацелі б мець прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь свайго чалавека, паслухмянага служку наменклатуры. Вось і чуецца шыпенне: "Время физиков и музыкантов прошло. Управлять страной должны специалисты!" (Разумей — невукі з дыпломамі ВПШ).

Не, шаноўныя! Прайшоў час камуністычнай наменклатуры. А час вучоных, музыкантаў, пісьменнікаў толькі надыходзіць! Як, дарэчы, і сапраўдных гаспадарнікаў, а не бяздарных кан'юнктуршчыкаў. А Станіслаў Шушкевіч заўсёды знойдзе разуменне і падтрымку ў беларускага народа.

*Ці чулі?*

## Адной дывізіяй менш

**Апошнія баявыя машыны 76-й гвардзейскай танкавай дывізіі, якая дыслацыравалася ў Брэсце, адпраўлены на пераплаўку на адзін з заводаў Барысава.**

У выніку расфарміравання дывізіі з Узброеных Сіл рэспублікі звальняецца 115 афіцэраў, якія адслужылі па 15 і больш гадоў, а таксама 27 афіцэраў тэрміновай службы. З іх кожны трэці пакуль не мае кватэры, але, як заявіў нядаўна намеснік камандуючага Брэсцка-Гродзенскага аб'яднання па выхаваўчай рабоце і кадрах Сяргей Кузняцоў, усе яны павінны хутка атрымаць жыллё. І ў далейшым з арміі ніхто не будзе скарочаны, пакуль не вырашыцца яго жыллёвае пытанне. Што ж датычыць самога расфарміравання дывізіі, то, паводле слоў намесніка камандзіра дывізіі Генадзя Ганчара, гэты працэс ідзе ў адпаведнасці з дагаворам аб скарачэнні звычайных узброеных сіл у Еўропе, а таксама згодна з рашэннем парламента і ўрада рэспублікі аб скарачэнні нацыянальнай арміі.

**Іван КУКСА, Белінфарм.**

*г.Брэст.*

*Пасля падзеі*

## Нафтавікі просяць падставіць плячо

**Валеры ДРАЗДОЎ**

**Як вядома, у Сургуце адбылася нарада глаў урадаў па праблемах нафты і газу. У ёй прынялі ўдзел главы і паўнамоцныя прадстаўнікі ўрадаў Азербайджана, Арменіі, Беларусі, Грузіі, Казахстана, Кыргызстана, Літвы, Малдовы, Расіі, Таджыкістана, Узбекістана і Украіны. Усе яны выказалі зацікаўленасць у ажыццяўленні сумесных праектаў з мэтай вытворчасці дадатковых рэсурсаў вуглевадароднай сыравіны. Падпісаны шэраг дакументаў.**

Квота на сёлетні год, выдзеленая Беларусі, будзе вытрымана. Падпісана канкрэтнае пагадненне з урадам Расіі. Цэны значна ніжэйшыя за сусветныя, прычым вызначацца яны будуць сумесна створаным там жа, у Сургуце, міжурадавым Саветам па нафце і газу. Ну, а на перспектыву трэба папрацаваць. Шэраг абавязацельстваў узяла на сябе і Рэспубліка Беларусь. Вытворчасць нафты ў Расіі падае. У гэтым годзе плануецца здабыць 340 мільёнаў тон, а яшчэ ў 1989 — здабывалі 520 мільёнаў. Запазычанасць нафтавікам спажыўцоў рублёвай зоны — 1 трыльён 800 мільярдаў рублёў. Часам няма чым выдаць зарплату. У гэтай сітуацыі, як кажуць, падставіць плячо трэба і нашай маладой дзяржаве. Будуць ствараюцца сумесныя прадпрыемствы самых розных арганізацыйна-прававых норм, але перавагу атрымаюць акцыянерныя таварыствы адкрытага тыпу. Беларусы будуць займацца абуладкаваннем месцанараджэнняў, будаўніцтвам дарог, жылля, актыўна асвойваць новыя радовішчы і г.д. А "нашых" там і сёння нямала. Напрыклад, толькі ў Лангепасе чвэрць насельніцтва — беларусы. Для іх будуць ствараюцца нацыянальныя школы. Урад ужо сёння вырашае пытанні іх сацыяльнай абароны. Зноў паўстае пытанне аб неабходнасці двайнога грамадзянства.

Уласна, сумесная работа ўжо пачалася. Падпісаны ўстановачныя дакументы аб стварэнні шэрагу сумесных прадпрыемстваў з вытворчым аб'яднаннем "Наябрскнафтагаз". Беларускія акцыянеры маюць 49 працэнтаў акцый. Нам выдзелена пяць месцанараджэнняў. Трэба будзе іх абуладкаваць, пабудаваць дарогі, зрабіць бурэнне. Гэта значыць — узяць нафту. І толькі потым мы будзем мець права на атрыманне нафты прапарцыянальна ўкладзенаму капіталу. У дакументах абгаворваецца лічба 2,5 мільёна тон у год. Падрыхтаваны іншыя праекты — у агульнай складанасці на 6 мільёнаў тон нафты ў год.

Больш-менш стабільная сітуацыя з газам. Пастаўкі Беларусі на ўзроўні 16 мільярдаў кубаметраў прыроднага газу ў год — захаваны. Больш таго, у бліжэйшыя 5—7 гадоў іх плануецца давесці да 30 мільярдаў тон. У сувязі з "нафтавай сітуацыяй" нам давядзецца ў значнай меры пераарыентаваць эканоміку на "блакітнае паліва".

Калі гаварыць коратка аб галоўным выніку падзеі, што адбылася ў Сургуце, то яго можна выказаць так: дзяржавы аб'ядналіся для таго, каб стабілізаваць і нарасціць аб'ёмы вытворчасці і потым ужо мець сваё права на нафту. Работа чакаецца вельмі вялікая. Рэспубліцы трэба як мінімум мець у год 35—40 мільёнаў тон нафты. У гэтай сітуацыі — пакуль што скажам так, магчымы варыянты.

Народная газета

*Крупным планом*



К тайне невидимых излучений всегда устремлялись мысли ученых. В конце 50-х годов Сергей Конев и другие исследователи открыли, что белковые вещества могут люминесцировать в ультрафиолетовой области спектра. Работы Конева породили целую школу в Белорусской академии наук. Исследователям хотелось получить простой метод слежения за работой этих удивительных кирпичиков живого. Это удалось ученым институтов фотобиологии и физики АН Беларуси. Белок открыл им много тайн и подарил способы диагностики различных заболеваний. С помощью метода люминесцентного анализа можно быстро сказать, есть ли в организме злокачественная опухоль, как протекает процесс поражения клеток. По спектру люменесценции сыворотки крови определить механическую желтуху и инфекционный гепатит, провести количественный анализ содержания белка в молоке, картофеле и других продуктах. Метод получил широкую известность и взят на вооружение всеми лабораториями мира. За эти разработки группа ведущих ученых удостоена Государственной премии Республики Беларусь 1992 года.

*Сидят: доктор биологических наук профессор, член-корреспондент АН Беларуси Сергей Конев, ведущий научный сотрудник, доктор биологических наук Екатерина Слобожанина, доктор физико-математических наук Леонид Пикулик;

стоят: доктор биологических наук профессор Евгений Черницкий, доктор биологических наук профессор Владимир Мажуль, доктор биологических наук профессор, член-корреспондент АН Беларуси Игорь Волотовский.

Лилия НИКОЛАЕВА,
Сергей БРУШКО
(фото)

*Самавольства*

# Цукровая ліхаманка,

## або Аб тым, як адна паважаная фірма падманула дзяржаўны канцэрн на 200 мільёнаў, а магла падмануць і на 1 мільярд рублёў

**Віктар ХАРОШКА**

У чэрвені мінулага года парог канцэрна "Белхарчпрама" пераступілі афіцыйна падкрэсленыя і ў лепшых традыцыях заходніх дзелавых колаў галантныя людзі.

— Мы — бізнесмены, — адрэкамендаваліся яны. — Хацелі прапанаваць вам даволі выгадны кантракт.

— Сядайце, расказвайце, — хутчэй з ветлівасці, чым ад зацікаўленасці справай, адказалі гасцям.

— Калі патрэбен вам цукар, — не бянтэжачыся халаднаватым прыёмам (адразу вырашылі браць быка за рогі, як высветлілася крыху пазней, прадстаўнікі нігерыйскай фірмы "Вайдзіінтэрнэшнл"), — выстаўляйце свае ўмовы. Нашы магчымасці неабмежаваныя.

Каго не заінтрыгуе такая здзелка! Ёкнула сэрца і ў прадстаўнікоў "Белхарчпрама". Тым больш што цану фірмачы патрабавалі не надта вялікую.

Хуценька былі абгавораны ўмовы кантракта, сумы, працэнты папярэдняй аплаты, тэрміны выканання і іншыя дэталі, пра якія ў такіх выпадках звычайна ідзе размова.

Ніхто б, мабыць, пра гэтую справу і не даведаўся, каб не адна акалічнасць. Недзе ў сярэдзіне снежня мінулага года ў рэдакцыі з'явіўся інтэлігентны, сярэдніх гадоў мужчына.

— Удзяліце мне хвілін пяць і я вам раскажу, як нас падманулі на некалькі мільёнаў рублёў, — усхвалявана пачаў ён.

Як жа не зацікавіцца! І я ўважліва выслухаў Фёдара Фёдаравіча Гуза, галоўнага спецыяліста праектнага аддзела Беларускага праектна-канструктарскага і тэхналагічнага інстытута харчовай прамысловасці НВА "Хартэх" канцэрна "Белхарчпрам". Вось што ён паведаміў.

Яшчэ ў ліпені па інстытуту пранеслася чутка, што канцэрн заключае кантракт з нейкай фірмай на пастаўку цукру па 36 рублёў за кілаграм. І тым салодкім прадуктам атаварваць будуць усіх супрацоўнікаў. Толькі для гэтага трэба сабраць з кожнага жадаючага мець цукар залогавую суму 270 рублёў за мех. Зразумела, што ад такой спакусы мала хто адмовіўся. У тым жа аддзеле Фёдара Фёдаравіча з 45 чалавек паўдзельнічаць у кантракце захацела 30 навукоўцаў. На папярэднюю аплату сабралі яны амаль 13,5 тысячы рублёў. Заўважце: з аднаго аддзела інстытута.

І паляцеў непрыкметна час. Недзе ў верасні, праўда, народ захваляваўся.

— Чаму няма цукру? — задала дэлегацыя інстытута пытанне арганізатарам.

— Груз ідзе недзе па Чорным моры, — супакоілі людзей у аб'яднанні.

У кастрычніку адказ быў больш абцякальны.

У лістападзе наогул адмовіліся адказваць.

У пачатку снежня паабяцалі ў рэшце рэшт... вярнуць грошы.

— Навошта нам тыя грошы, якія зараз нічога не вартыя. У лепшым выпадку індэксуйце іх, бо мы ж не вінаватыя, — стаялі на сваім інстытутаўцы.

Цяганіна працягвалася амаль месяц. Зморамыя чаканнем людзі пасля ўмяшання "Народнай газеты" атрымалі назад свае грошы, канцэрн зняў неабходную не вельмі вялікую для такой установы суму і раздаў навукоўцам.

Але на той час рэдакцыі стала вядома, што "Вайдзіінтэрнэшнл" заключыў з "Белхарчпрамам" кантракт больш як на 1 мільярд рублёў і папярэдняй аплаты атрымаў больш за 200 мільёнаў рублёў, якія размясціў у камерцыйным банку "Дукат".

Само сабой зразумела, што я пацікавіўся, ці вернута гэтая сума (а складалася яна як з грошай людзей, якія працуюць у бюджэтных арганізацыях, так і з адлічэнняў прадпрыемстваў трэста) заказчыку.

— Што вы гаворыце! — адказала адна з арганізатараў кантракта начальнік упраўлення знешніх сувязей канцэрна Таццяна Андрэеўна Бяляева. — Банк катэгарычна заявіў, што ён не гарантаваў выканання кантракта, які, дарэчы, сарваўся. А пісьмовае паведамленне не з'яўляецца гарантыяй выканання таго ж кантракта. Грошы, маўляў, вам не дадзім, таму мы і пайшлі пакуль на той крок, каб зняць частку грошай са свайго рахунку і аддаць іх тым, хто разлічваўся наяўнымі. Прадпрыемствы ж нічога не атрымалі, а банку выгадна трымаць такую суму як мага даўжэй.

Пакінуць так справу, зразумела, у канцэрне не маглі. Звярталіся за дапамогай у многія інстанцыі, нават у Саўмін рэспублікі. Але ўсюды хадакам адказвалі: вашае пытанне вырашыць толькі суд.

Сёння зразумела: праз суд грошы канцэрну будуць вернуты. Роўна тая сума, якая была ўкладзена ў ліпені, але ўжо без працэнтаў. Галоўнае ж не ў гэтым. Здзіўляе тая лёгкасць, з якой прадстаўнікі "Белхарчпрама" пайшлі на такую сумніцельную здзелку. Няўжо забыліся пра адну дзедаўскую прымаўку: сем разоў адмерай, а адзін — адрэж.

*Открытым текстом*

# Зачем нашей стране быть чужой провинцией?

## По мотивам редакционной почты и выступлений русскоязычных изданий

**Иван СЕРГЕЕВ**

В последнее время усилились атаки на возрождение национального языка. Русскоязычные оппоненты выдвигают надуманные доводы, чтобы хоть как-то обосновать придание статуса государственного языка русскому. Рассмотрим те, что муссируются особенно настойчиво.

**— Разве наше благополучие зависит от языка, а не от умения организовать дело и продуктивно работать?**

**Давайте сконцентрируем усилия на решении экономических проблем.Неужели возвращение языка прибавит нам колбасы?**

— Во-первых, неужели изучение школьниками родного языка мешает их родителям увеличивать выпуск колбасы? Каждому ясно, что развитию колбасного, как и любого другого производства, мешают вовсе не школьные уроки и программы.

Во-вторых. Представьте, что человечество так и не научилось бы говорить. Смогло бы ли оно достичь нынешнего развития, уровня жизни? Опять же, любому ясно, что только благодаря языку человек стал человеком и достиг современного прогресса. Без него он так и остался бы животным.

*Но оппоненты выдвигают новые доводы.*

**— Какая разница на каком языке разговаривать, главное, чтобы люди понимали друг друга?**

—Объясняем разницу. Возрождение государства Израиль началось с изучения своего языка, который не использовался веками. Возрождается язык — возрождается нация. А сила нации в миллионы раз сильнее силы разрозненных людей. В итоге — впечатляющие достижения Израиля в экономике. В Ирландии решили пользоваться чужим языком. И не могут избавиться от потрясений.

Вот вам и разница. Это в общих словах. А если взглянуть глубже, то суть в том, что через чужой язык в души людей беспрепятственно проникает чужая мораль, чужая идеология, политика чужого государства. В результате своя страна оказывается провинцией другой. Весь же опыт мирового развития убеждает, что в провинции никогда не живут хорошо. Прогресс и процветание любого народа начинается лишь после приобретения собственной государственности.

*Оппоненты выдвигают свой главный козырь, который нынче звучит со страниц многих газет и трибун:*

**— А вот в Финляндии два государственных языка. Шведов там мало, а их язык наравне с финским. В Бельгии государственным является французский и она не потеряла своей независимости. В Америке говорят на английском и тоже очень хорошо живут.**

— Эти доводы рассчитаны на простаков, на то, что наши люди не были в этих странах, не знают истинного положения и поверят любому утверждению.

Мы уже объясняли суть этих двуязычий. Поскольку тезис муссируется вновь, давайте еще раз вернемся к нему.

По Финляндии. Шведский язык в Финляндии доминирует там, где компактно проживают шведы. По всей же стране все делопроизводство и учеба ведутся на финском. Заметим при этом, что шведским языком в Финляндии пользуются шведы. Они говорят на своем родном языке, а не на чужом, как в Беларуси.

По Бельгии. В состав этой страны входят земли, на которых жили и живут французы. Они и говорят на своем родном французском, который и признан государственным наравне с другими. Никто ведь бельгийцам не навязывал чужой язык. Как это сделали в Беларуси, силой внедрив русский.

**— Русский и белорусский — языки братья, — часто твердят некоторые русскоязычные издания.**

Но при этом забывают, что "братская схожесть" во многом достигнута в результате многолетних косметических операций.

Чего хотят корректировщики Закона о языках? Оставить у нас государственным русский и таким образом довершить русификацию, проглотить Беларусь как самостоятельное государство. Многие на Востоке секрета из этого не делают. В одном телевизионном интервью Ельцин говорил, что Беларусь, видимо, войдет в федерацию. Бывший глава российского правительства охарактеризовал подписанные в Москве соглашения между нашей республикой и Россией как шаг к конфедерации. Я уже не говорю о взглядах Жириновского, Солженицына и многих других российских деятелей.

Так что, господа-русификаторы, не надо лукавить, вводить в заблуждение своими рассуждениями о языках-братьях, о важности знать русский и т.д. Это лишь прикрытие.

**P.S.** Поскольку эта публикация предназначается в первую очередь тем, кто пока не владеет белорусским языком, то редакция специально подготовила ее в русскоязычном варианте.

*Интим*

# НАСИЛИЕ

## Женщины у нас относятся к абортам, как к насморку, — легкомысленно и бездумно. Никто не задумывается, что это, по сути, узаконенное детоубийство...

**Елена МОЛОЧКО**

Не так давно в нашем городе произошло два жутких случая, которые тем не менее не то что не всколыхнули широкую общественность, но даже, кажется, не задели внимания профессионалов — медиков, педагогов, юристов. А случилось вот что. На помойках около студенческих общежитий политехнического и технологического институтов нашли двух мертвых младенцев. Обнаружили их ранним утром мусорщики, меняя полные контейнеры на пустые. Человеческие детеныши издали были похожи на куклы. Только кто же сейчас куклу выбросит, игрушки нынче — дорогое удовольствие. А вот младенцев выкинули...Новорожденные валялись среди банок, грязных бумаг и битых бутылок голенькие — не нашлось для них даже пеленки...

Было проведено расследование. Но ничего конкретного установить, естественно, не удалось: подкинуть младенца в мусорку у общежития могла, конечно, любая, не обязательно студентка. Тем более что студентки как раз народ более "грамотный", они до криминала не доводят, они знают: аборты у нас в стране разрешены, их делают сейчас совершенно всем по первому требованию. Зачем волноваться, рожать, прятаться, чтобы потом тихонько подкинуть дитя на помойку, когда врач-гинеколог профессионально освободит тебя от "продукта зачатия", как называют теперь ребенка в медицинских справках, а потом этот "продукт" цивилизованно сожгут в крематории. И никаких воспоминаний, а тем более угрызений совести. А главное, никому и в голову не придет упрекнуть тебя в насилии, а тем более назвать эту операцию преступлением. Аборт у нас — не преступление.

Не преступление?

В большой восьмикоечной больничной палате даже если минутами и устанавливалась тишина, то все равно покоя она никому не приносила. Женщины были разного возраста, социального положения, но только что перенесенную адскую боль, а главное — унижение переживали одинаково: тяжко вздыхали, ворочаясь с боку на бок, иногда вполголоса начинали друг другу исповедоваться...

— Я от страха вцепилась в маску руками, да так сильно, что медсестра одна не могла ее у меня отнять, позвала кого-то на помощь. Ну, вдвоем они меня, конечно, одолели. Так что потом я была уже без наркоза, все слышала... Ощущение такое, словно из тебя вытягивают кишки... Боже, если б знала, что это так больно, лучше б родила.

— А я с утра пятнадцать таблеток валерианки проглотила и все равно волновалась до тошноты. От пота вся липкая, холодная дрожь по телу, не помню, как на кресло улеглась. У меня тоже маску быстро забрали, они у всех ее быстро забирают — не хватает обезболивания для операций, а уж для абортов...

— Слышали, как рядом врач ругалась? "Боишься боли — уходи! Вставай и уходи! Сама пришла, сама и уходи, никто тебя здесь не ждал..." А женщина так рыдала, чтобы дали наркоз... Наверное, учительница. Говорят, учительницы все такие, у них нервные системы сорваные на работе.

— Да здесь с нами разве церемонятся? — воскликнул кто-то вполголоса и тут же осекся.

В палату резко вошла совсем еще юная женщина. Она дико смотрела на окружающих. В руках перед собой держала белую салфетку, на которой лежала маленькая нежная ладошка, больше похожая, правда, еще на лягушечью лапку — с перепонками между тонкими длинными хрящиками, мокрая, розовая, беззащитная.

— Вот... — женщина отчаянно боролась с рыданиями. — Это из меня... Остатки.. Плохо почистили, видно. Господи, а ведь мы все — убийцы?! Гос-по-ди-и...

Она проплакала, не переставая, до самой ночи. Больше в палате никто не произнес ни слова.

В прошлом году только в Минске почти 46 тысяч женщин отказались иметь ребенка, предпочитая сделать аборт. Это огромная цифра, если учесть, что в прошлом же году в нашей республике был момент, когда смертность превышала рождаемость почти в полтора раза. Кстати, по абортам страны СНГ (вместе с Индией) на первом месте в мире. Или еще такая статистика. В Англии один аборт приходится на 4,7 женщины; в СНГ — 5 абортов на 1 женщину. Впечатляет? Причем медики разных уровней — от участкового гинеколога и до начальника отдела Минздрава — утверждают в один голос: женщины у нас относятся к абортам, как к насморку, — легкомысленно и бездумно. И такая тенденция с каждым годом все сильней. О чем это говорит? О снижении нашего жизненного уровня? Да нет же! Прежде всего об уровне культуры общества — увы, совсем-совсем невысоком.

Заведующая республиканской консультацией "Брак и семья" Лилия Александровна Жуковская сказала даже более жестко:

— В вопросах контрацепции наше общество глубоко невежественно. Между тем еще жены фараонов умели предохраняться от беременности. При раскопках гробниц в женских мумиях были найдены золотые бусинки на ниточках — прототипы современных спиралей. Но у нас, в конце двадцатого столетия, чтобы поставить женщине спираль, надо еще полчаса ее уговаривать. А о противозачаточных таблетках они вообще имеют очень примитивное представление, хотя таблетки очень быстро выводятся из организма, не наносят ему никакого вреда, и вообще гармональные средства защиты очень популярны во всем мире. У нас же большинство супружеских пар пользуются совершенно варварским методом предохранения — это прерванный половой акт. Кстати, прямой путь к неврастении. Ну, а аборт... Если бы только женщины представляли, как эта операция вредна для организма! Искусственное прерывание беременности даже в малых сроках — это колоссальный срыв, стресс для всей нервной системы вплоть до подкорки головного мозга. Кроме бесплодия, вас в будущем непременно ожидает еще несколько болезней, которые вы по своему невежеству даже не свяжете с абортом. Природа не прощает насилия над собой. К сожалению, нынешнее состояние системы сексуального воспитания я считаю катастрофическим. В связи с переходом на хозрасчет в городе закрылись все лектории, школы здоровья. Понимаете, экономят на просветительской работе и не задумываются, что теряют неизмеримо больше: здоровое потомство. Ведь в результате первичных абортов 80 процентов женщин становятся бесплодными. Но даже если им удается после долгого лечения забеременеть, это, как правило, без патологий не обходится. Вы посмотрите, у нас в три этажа патологическое отделение, а в Европе — одна-две койки в клинике... Если мы не обратим на сексуальное образование населения серьезного внимания, то вскоре здоровье нации будет под угрозой!..

В близкой нам во всех отношениях Польше 7 января Сейм большинством голосов принял закон, запрещающий аборты. Президент уже подписал его, и примерно в середине марта закон вступит в силу. Некоторые у нас прогнозируют, что теперь, мол, поток польских женщин непременно ринется в приграничные Брест и Гродно на подпольные аборты. Наверное, отдельные случаи будут, не спорю, но чтобы "поток"... — сомневаюсь! И причины, по-моему, здесь две. В Польше несравненно выше система сексуального воспитания, регулирование рождаемости там и раньше происходило не через аборты, а через современные противозачаточные средства. Во-вторых, в обществе выше общий уровень духовного воспитания. Возможно, это — влияние костела, но так или иначе в стране есть святыни, запреты, табу. Утверждаю так потому, что помню разговор со своей давней студенческой подругой. Беата живет теперь в Лодзи, занимается, не без успеха, наукой, водит автомобиль, имеет элегантную квартиру, начиненную всякой техникой, и сама выглядит суперсовременно. Как-то при встрече случился у нас очень женский разговор и моя подруга неожиданно призналась:

— Лена, я не хотела иметь второго ребенка. Да, моя Кинга — незапланированное дитя... Я только-только подняла на ноги первую, Дарусю, только вздохнула от пеленок и, как ты помнишь, мечтала побыстрей заняться педагогикой, поступить в аспирантуру. Поверь, когда врач подтвердил мою беременность, я была настолько оглушена новостью, что прямо в кабинете у меня случился обморок. Аборт?.. Об этом не было даже и речи! Меня никто б не понял, поверь, а муж этого бы никогда не простил. Ты же знаешь, я — атеистка. Но убивать в утробе собственное дитя? В моем сознании это не укладывается.

У нас аборт — давно ни для кого не трагедия. В крайнем случае — досадная проблема, которую надо побыстрей решить и забыть. Понятие греха, вины за содеянное, уважения к законам природы, а тем более к ее тайнам — в большинстве своем нам это не привито с детства. А ведь зачатие, беременность — величайшая тайна мироздания. А мы ее скребком — вжик-вжик и чисто. И никаких сомнений! Если уж только на дому решаются на аборт — черенком от фикуса или там спицей — тогда криминал, тогда все в ужасе, переживают за жизнь женщины, не плода, конечно. Другое дело — аборт в больнице. Он считается обычным делом, нормой — ведь официально узаконен государством.

Но закон этот не просто несовершенен, он, по-моему, антигуманен, потому что практически каждой женщине разрешает прерывать беременность даже в поздние сроки — 25—28 недель. Врачи у нас, по сути, совершают детоубийство. И это не преступление?!

... Вера сидела на диване, аккуратно скрестив ножки в белых носочках. Такая вся припухшая, заплаканная, скромная, милая. Руками она обнимала свой большой круглый живот, как будто хотела уберечь его от беды. Но сюда, в гинекологическое отделение 6-й поликлиники, она попала не на сохранение, не на лечение, а чтобы как раз от своего живота избавиться. Только что ей ввели солевой раствор, в котором в судорогах погиб ее ребенок. А к утру с помощью стимулирующих средств она, наконец, вытолкнет из себя мертвый плод... Вере 22 года, по профессии она маляр, приехала в Минск из деревни, живет у старшей замужней сестры. Аборт в позднем сроке комиссией ВКК ей разрешен по социальным показаниям: не замужем, мало получает...

— Вера, неужели твоя мама никогда не говорила тебе, как незамужние женщины должны предохраняться от беременности?

— Не-а, — плачет.

— Кем она работала?

— Колхозницей...

— А сестра? Со старшей сестрой ты разве никогда не советовалась?

— Не-а, — опять всхлипывает.

— Ну, хорошо, ладно, не разводи сырость. Тогда почему хотя бы не пришла на аборт в срок?

— Думала, что все и так пройдет, тяжести разные подымала. А потом нас послали на три недели в командировку из Минска в район...

— У тебя, девочка, беременность 6 месяцев, а ты говоришь про трехнедельную командировку! Вера, ты про спираль, про таблетки противозачаточные слышала когда-нибудь? Что ж ты такая темная? Ведь на дворе двадцатый век кончается, да и Копыль твой от Минска в двух часах езды, не край света...

Светлана Михайловна Милькаманович, заведующая гинекологическим отделением, в досаде бросила ручку, которой что-то заполняла в медицинской карточке, на стол. В отчаянии воскликнула:

— Ведь грех на душу берет врач! Врач, который убивает ребенка. Вы себе не представляете, какая это варварская процедура. Мне, например, с каждым годом все труднее себя заставлять идти на нее. Когда вводишь в матку солевой раствор, плод начинает так сильно дергаться, что выбивает порой из рук шприц... Таких операций в прошлом году у нас в отделении сделано семьдесят. Семьдесят детоубийств... Мы в ужасе: к чему приведет эта вседозволенность, распущенность? Половое воспитание в обществе на нулевой отметке. Девицы сначала беременеют, а потом решают, будут выходить замуж или нет, сможет она прокормить ребенка или не сможет. Да, такие женщины, словно животные: анализ отсутствует, есть только рефлекс, позыв к действию. И закон еще на их стороне! А о враче должен кто-то подумать? Нас должен кто-нибудь защитить?..

Пока этот вопрос в обществе остается риторическим. Как и многие другие, связанные с проблемами брака и семьи, — ведь у нас в республике до сих пор нет закона, на современном уровне регулирующего все аспекты отношений мужа, жены, планирование семьи.

Когда я собирала материал для этой статьи, многие врачи, с кем беседовала, скептически вздыхали: бесполезно! Бесполезно, потому что стихийно, потому что одна газетная статья погоды не делает, республике нужна единая система полового образования, которую следует внедрять еще в школе. И все-таки я пишу. И призываю: задумайтесь! Аборт — насилие над природой. Насилие, которое человеку никогда не прощается, никогда не проходит для него бесследно...

*Навіны двума абзацамі*

## За прэстыж трэба плаціць

**Новыя спецыяльнасці прадугледжваецца ўвесці ў гэтым годзе ў Брэсцкім політэхнічным інстытуце.**

Па рашэнню вучонага савета ВНУ на камерцыйнай аснове тут будзе адкрыты эканамічны факультэт дзённай формы навучання па спецыяльнасцях "Бухгалтарскі ўлік. Кантроль і аналіз гаспадарчай дзейнасці", "Фінансы і крэдыт". А на завочным факультэце дабавяцца спецыяльнасці "Знешнеэканамічная дзейнасць" і "Міжнародныя эканамічныя адносіны". За навучанне новым прафесіям зацікаўленым прадпрыемствам або самому студэнту прыйдзецца заплаціць кругленькую суму.

## Саджайце бульбу

**Шанц папоўніць меню свежай агароднінай з'явіўся ў членаў касы ўзаемадапамогі пенсіянераў пры Ленінскім райсабесе Брэста.**

Недалёка ад горада ім выдзелены зямельныя ўчасткі пад агароды. Праўда, на іх нельга нічога будаваць, забаронена саджаць дрэвы і кусты. Зямля перададзена пенсіянерам у часовае карыстанне тэрмінам на дзесяць гадоў.

## Шэфства зноў у модзе

**Больш за сорак прадпрыемстваў Магілёва заключылі з калгасамі і саўгасамі вобласці дагаворы на ўзаемавыгаднай аснове.**

Прамыслоўцы абавязаліся дапамагчы падшэфным гаспадаркам тэхнікай, запчасткамі, будаўнічымі матэрыяламі, рабочай сілай. Земляробы, у сваю чаргу, паставяць прадукты харчавання. Акрамя таго, пры гарвыканкаме створаны пастаянна дзеючы фонд садзейнічання развіццю сельскай гаспадаркі. Па яго ініцыятыве на заводах арганізаваны выраб 26 назваў дэталей і запчастак да сельскагаспадарчай тэхнікі. З серыйна выпускаемай прадукцыі калгасам і саўгасам пастаўлена ўжо вузлоў і агрэгатаў больш чым на шэсць мільёнаў рублёў.

Белінфарм.

## Зрабі месца сам

**На заводзе "Легмаш" створаны ўчастак па вытворчасці тавараў народнага спажывання.**

Ён абсталяваны швейнымі машынамі і вязальнымі станкамі, якія выпускаюцца на самім прадпрыемстве. На новыя 45 рабочых месц прыйшлі рабочыя і служачыя, якія трапілі пад скарачэнне штатаў. Імі асвоены спецыяльнасці швачак-матарыстак і вязальшчыц. Прадукцыяй участка сталі халаты, пасцельная бялізна, штаны і цюль. Яны прадаюцца ў фірменным магазіне "Лань" і карыстаюцца попытам не толькі ў завадчан.

Людміла МАРШАЛОВІЧ,
РІД.

